Цана асобнага нумару 20 грош.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 3 Вільня, Серада, 7-га ліпня 1926 г. Год I.

## П. П. С.

Аб тым, якія настроі пануюць у беларускай вёсцы пад Польшчай, ведама дужа добра кожнаму, хто сочыць хаця-бы за беларускай незалежнай прэсай. Дый ня толькі за беларускай: навет і ў польскую прэсу пранікаюць усё часьцей весткі аб тым, што ў Заходняй Беларусі ў вёсцы ажно кіпіць, што там ужо няма веры розным абяцанкам і пасулам, ці народ пачынае разумець, што толькі ўласнымі сіламі—сіламі сваей крэпкай арганізацыі—ён здолее здабыць сабе лепшую долю....

На гэтых настроях нягодна спэкулюе на Беларускіх землях Партыя Польскіх Сацыялістаў,—партыя, якая ўжо збанкрутавала ў вачох польскіх працоўных з прычыны сваей згодніцкай палітыкі ў адносінах да польскае буржуазіі і цяпер ідзе „шукаць галасоў“ дзеля новых выбараў у Сойм—на „Крэсах“.

Беларуская незалежная прэса ўжо падавала ня раз весткі аб „працы“ пэпээсаў сярод беларускага сялянства—галоўным чынам на Палесьсі. Стараючыся абаламуціць беларускія масы сваім нібы-то „радыкалізмам“, яны ў сваей агітацыі карыстаюцца рознымі бунтарскімі, рэвалюцыйнымі лёзунгамі, якім народ ахвотна дае послух, перамалёўваюцца „пад бальшавікоў“, выдаюць у расейскай мове газэту „Красное Знамя“, на мітынгах гавораць не папольску, а бадай выключна парасейску (беларускае мовы не прызнаюць!). Яны на вечах суляць нам і зямлю, і родную школу, і нацыянальную волю. Яны гатовы навет прызнаць незалежнасьць Беларусі, але... толькі ў тэй часьці яе, якая знаходзіцца па-за межамі Польшчы і ўжо жыве самастойным жыцьцём у Саюзе Сацыялістычных Радавых Рэспублік.—Урэшце—яны абяцуюць утварэньне работніцка-сялянскага ўраду і—пяюць „Інтэрнацыянал“!...

А што-ж робяць пэпээсы на дзеле?

Хто-ж ня ведае, што гэная партыя ў працягу сямёх гадоў існаваньня Польшчы толькі тым і займалася, што ганебна прадавала працоўныя масы свайго народу „радзімай“ буржуазіі?! Хто-ж ня ведае, што партыя гэная, меўшы ўладу пры самым пачатку адбудовы незалежнае Польскае дзяржавы, самахоць падзялілася гэтай уладай з буржуазіяй,—правільней: аддала буржуазіі ўсю ўладу бяз бою,—і то ў той мамэнт, калі буржуазія была бяссільная, незарганізаваная і не магла-бы супраціўіцца ўладзе працоўных?! Хто-ж ня ведае, што ППС яшчэ так нядаўна ўвайшла ў ганебны хаўрус з фабрыкантамі і абшарнікамі ды за два міністэрскія партфэлі для сяброў партыі памагала буржуазіі зацягіваць пятлю на шыі працоўных?! Урэшце—хто-ж не памятае, як гэная партыя ў дзень 1-га мая растрэлівала на вуліцах Варшавы польскіх работнікаў—толькі за тое, што яны на сваіх чырвоных сьцягах напісалі больш радыкальныя лёзунгі і дамаганьні, чым хацела П. П. С.?...

А для нас—для беларусаў—што-ж ППС зрабіла на дзеле, меўшы ўладу ў сваіх руках? Пэпээсаўскія прадстаўнікі падпісалі рыжскі трактат, які разарваў жывое цела беларускага народу. Пэпээсы былі і зьяўляюцца абаронцамі вайсковага асадніцтва на Беларускіх і Украінскіх землях, дый бадай усе ізнія „дзеячы“ ў нас ужо пажывіліся беларускай зямліцай, атрымаўшы тут асады.... Пэпээсы правадзілі ў Сойме аслаўленыя „языковыя законы“. Пэпээсы, крывадушна гаворачы аб роднай школе, стараюцца падсунуць беларускаму сялянству Палесься школу ня ў роднай, а ў чужой расейскай мове, каб гэтак адарваць паляшукоў ад агульна-беларускага вызвольнага руху працоўных. Пэпээсы сьвядома вядуць сваю работу ў такім кірунку, каб беларускія сяляне і работнікі не маглі стварыць свае уласнай крэпкай арганізацыі; яны стараюцца рознымі ашуканскімі спосабамі ўцягіваць беларускія працоўныя масы ў рамкі сваей партыйнай арганізацыі, каб мы *не маглі падаць на'т свайго голасу самастойна—паміма іх.* І гэта—поруч з імкненьнем *выкарыстаць беларускія галасы на выбарах*—другая мэта пэпээсаўскае работы ў Заходняй Беларусі.

Асаблівую энэргію выяўляе на Палесьсі пэпээсаўскі пасол Воліцкі. На сваіх мітынгах ён гатоў нам і асадніцтва ліквідаваць і зямлёй нас надзяляць,—але паглядзеце, што ён робе ў Сойме! Гэтак, у часе галасаваньня ў бюджэтнай камісіі аб асыгноўцы вялікіх грошы на польскіх вайсковых асаднікаў у Заходняй Беларусі (чаго вымагае ўрад п. п. Бартля і Пілсудзкага), — пан Воліцкі не пасьмеў запратэставаць проці такога марнаваньня народных грошы з крыўдаю для нашага сялянства і... толькі ўстрымаўся ад галасаваньня, даючы вольную волю польскай буржуазіі правясьці гэную „маральную“ асыгноўку....

Так паступае і ўся партыя польскіх „сацыялістаў“. Замест вясьці барацьбу з буржуазіяй за інтарэсы працоўных, яны або робяць тое, чаго хоча буржуазія, або—у найлепшым выпадку—умываюць рукі і „ўстрымоўваюцца“... ад змаганьня з ёю. Дык мы можам з поўным правам запытацца ў пасла Воліцкага, які на гэты раз ішоў адзін проці агульнага імкненьня паваднароў ППС да „сьвятой згоды“ з буржуазіяй: чаму Вы, калі Вы запраўды рэвалюцыянэр, сядзіце ў гэтай партыі? што зьвязвае Вас з ёю? чаму—калі не згаджаецеся з ёю—не пакінеце ППС? Вы ўсё яшчэ астаецёся ў партыі, слухаючыся каманды яе збанкрутаваўшых павадыроў. А паглядзіце, як паступаюць Вашы таварышы, запраўды верныя працоўным. Тыя з сяброў партыі—палякі, якія ўжо добра пераканаліся аб здрадніцкай палітыцы партыйных павадыроў, вострa кляймяць іх—адкрыта і публічна. Гэтак пэпээсаўскія работнікі ажно з пяцёх акруговых работніцкіх камітэтаў партыі: ў Любліне, Кракаве, Сьлёнску Цешынскім, Тарнове і Горным Сьлёнску — выдалі адозву, у якой падаюць доўгі сьпісак цяжкіх праступкаў пэпээсаўскае партыі проці працоўнага народу і канчаюць адозву славамі:

„*Для чэсных пэпээсаўцаў нямашака іншае дарогі, як разарваць сувязь з гэнай партыяй, апанаванай здраднікамі*“....

Так пішуць чэсныя пэпээсаўскія дзеячы—запраўдныя барацьбіты за вызваленьне работнікаў і сялян. І гэтые словы мусіць добра запамятаць кожын, да каго пад'яжджаюць ці будуць пад'яжджаць пэпээсы. Адказ ім наш хай будзе—*пагарда*!

## Зьбіраньне беларускіх зямель.

**У меру ўзмацоўваньня беларускіх культурных сіл у Радавай Беларусі, адбываецца далейшае пашырэньне межаў Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі.**

**Сьледам за далучэньнем да БСРР Магілёўшчыны і большае часьці Віцебшчыны ў 1925 годзе, у найбліжэйшым часе далучаецца яшчэ Гомельшчына, тры недалучаныя паветы Віцебшчыны і адзін павет Смаленшчыны. Як падаюць радавыя газэты, у справе хутчэйшага правядзеньня гэтага далейшага пашырэньня Радавае Беларусі езьдзіў у Маскву народны камісар БСРР Адамовіч і прывёз памысны адказ цэнтральнага ўраду.**

## У Сойме і каля Сойму.

### Плян працы Сойму на бягучую сэсію.

Канвэнт сэньёраў пастанавіў у працягу бягучай сэсіі Сойму разглядзець гэткія пытаньні:—1) зьмена Канстытуцыі; 2) прапазыцыю лявіцы—аб роспуску Сойму; 3) законапраекты аб самаўрадах; 4) даклад камісіі—аб рэарганізацыі дзяржаўнага кантролю; 5) прапазыцыі правіцы — аб зьменах у Выбарным Законе.

У панядзелак Сойм меў ужо разглядаць праекты зьмены Канстытуцыі, якія меў пераслаць для ўзгадненьня ў канстытуцыйную камісію. Каля тыдня камісія, працуючы штодня, будзе разглядаць праекты. Да канца месяца Сойм мае ўжо прыняць на пленуме гэтую зьмену. Гэткім чынам—толькі ў пачатку жніўня канвэнт спадзяецца канца сэсіі Сойму. А мо' і—канца яго жыцьця?!

## У Польшчы.

### Зьезд парабкоў.

У Варшаве адбываецца зьезд парабкоў з усей Польшчы. Справаздачу аб ім дадзём у наступным нумары.

### Gdy naród do boju wystąpił.

Работнікі ў Остроўцу і Інаврацлаву выступілі без аружжа. У першым горадзе была забастоўка, у другім—паход. Як у адным, так і ў другім мейсцы паліцыя на вуліцы страляла ў безбаронных людзей. І што-ж?—Яна не пакарана!

Дый мала таго, што не пакарана, як даносіць „Robotnik“ (№ 176 і 180), у Остроўцу на чэсьць паліцэйскага Хмуры, які першы абрызгаў свой мундзір работніцкай крывёю, быў уладжаны мяйсцовымі „патрыотамі“ банкет. Пілі й гулялі ўсю ноч. Прапусьцілі тысячы злотых.

У Інаврацлаву тое самае. Уласьнікі вялікіх магазынаў дарма далі на гульню гарэлкі і лікёраў.

А адначасна йдуць далейшыя арышты работнікаў з няўхільнымі „баданямі“...

### Забастоўка на Паморыі.

Забастоўка працаўнікоў грамадзкіх установ трывае далей. Галоўная ўправа саюзу работнікаў у ўстановах грамадзкага ўжытку ў Польшчы выдала адозву, прызываючы ўсіх сваіх членаў ападаткаваць сябе на карысьць забастоўкі. Работнікі Варшаўскай газоўні і электроўні першыя ўжо сябе ападаткавалі.

Магістрат ня думае рабіць уступак, а з другога боку—агульна-польская цэнтраля абяцуе чынна памагчы забастоўшчыкам.

У Грудзёндзу арыштавалі йзноў колькінаццаць работнікаў.

### Барацьба ў валакністай прамысловасьці.

2-га ліпня адбылася ў прэм'ера міністраў канфэрэнцыя ўласьнікаў фабрык і бастуючых работнікаў.

Капіталісты ўжо годзяцца на 12-ці працэнтную падвышку заработнай платы.

Работніцкая дэлегацыя лічыць падвышку невыстарчаючай пры аграмадным росьце дарагоўлі, і апошняга адказу не дала.

У гэтай справе зьвернецца яна да работніцкага агулу.

### Кветкі „новай“ нацыянальнай палітыкі.

2-га г. м. адбыўся ў Львове суд над арыштаванай у часе маёвага перавароту ўкраінскай арганізацыяй, зрабіўшай спробу на дзеле здабыць незалежнасьць Украіны.

Чатырох абвінавачаных звольнілі, а 8 засуджаны ад 3-х да 8 гадоў вастрогу.

### Ізноў праф. Кемэрэр у Варшаве.

Ізноў прыехаў з Амэрыкі ў Варшаву ведамы знаўца фінансавых спраў праф. Кемэрэр, які быў ужо раз запрошаны польскім урадам (мін. Зьдзе-

хоўскім), але штосьці—пазыцы не дапамог... З ім разам прыехала аж 11 памоцнікаў-фахоўцаў.

Відаць, праф. Кемэрэр мае папрацаваць даўжэйшы час—над упарадкаваньнем таго, што нарабілі ў фінансах краю нашы „прыраджоныя валадары“...

### „Галераўскія Ўрачыстасьці“ ў Пазнані.

У Пазнані адбыліся вялікія вайсковыя ўрачыстасьці—ў чэсьць генарала Галера, ведамага праціўніка марш. Пілсудскага. Былі прамовы, парады, зьезд „халерчыкаў“ і г. д. На зьезьдзе пастанавілі трэбаваць ад ураду безадкладнага звальненьня з вастрогу б. ваеннага міністра Мальчэўскага і іншых генералаў, якіх пасадзіў туда—ведама хто... усе „ўрачыстасьці“ былі дэманстрацыяй проці таго-ж самага... Толькі ў Пазнані, якая мае нейкую аўтаномію, і маглі адбыцца гэткія дэманстрацыі.

### Водгукі выступленьня арміі.

„Маральная рэвалюцыя“ адбілася на арміі не заўсёды карысна для цывільнага грамадзянства.— Угалоўная хроніка зарэгістравала ўжо некалькі выпадкаў аружнага самасуду паноў афіцэраў над цывільнымі і жаўнерамі... Вось новыя выпадкі гэтага вельмі небясьпечнага „руху“.

30 чэрвеня ў выніку сутычкі між капітанам Павіковскім і шофэрам аўтамабілю Стружыкам абодва пайшлі ў камісарыят паліцыі, дзе—ў часе дапросу і спрэчкі—капітан застрэліў з рэвальвэру шофэра. Цікава, што капітан быў у цывільнай вопратцы, але трэбаваў, каб шофэр аказываў яму „пашану“, як ваеннаму.

Яшчэ больш агідны выпадак здарыўся ў нас—на станцыі Новаельня.

Нейкі капітан („Дзен. Віл.“ не дае яго прозьвішча) замовіў два мейсцы ў аўтабусе, што курсуе між мяст. Дзятлавічы і ст. Новаельняй. Шофэр пакінуў 2 мейсцы, але капітан спазьніўся, дык аўтобус, поўны пасажыраў, пайшоў без яго. Праз паўгадзіны пасьля прыбыцьця яго на станцыю Новаельню туды прыехаў коньмі капітан і, пабачыўшы шофэра, сьпярша прыказаў дзяньшчыку біць шофэра, а, калі той даў здачы, выхапіў рэвальвэр дый пальнуў шофэру ў жывот... Таўпа хацела зрабіць самасуд над афіцэрам, але паліцыя неяк адратавала яго.

### Зладзействы на ўрадавай манапольнай фабрыцы тытуну.

Паліцыяй выкрыты вялізарныя надужыцьці на манапольнай фабрыцы тытуну ў Заблотове (Галічына). Кралі дарагі тытун некалькі гадоў. Накралі штосьці аж на 100 тысяч злотых. Як падазраваюць, зладзеі — свае-ж, служачыя фабрыкі. Арыштавана шмат асоб.

### Паліцэйскі рэдактар пад судом.

Былы рэдактар варшаўскай „Паліцэйскай газэты“ Грабовскі адданы пад суд за надужыцьці ў выдавецтве.

## Заграніцай.

### Залегалізуюць, ці не?

Літоўскі ўрад атрымаў заяву ад „работніцкай партыі“ з просьбай аб легалізацыі яе.

Дагэтуль „работніцкая партыя“ пад кулацка-ксяндзоўскім урадам была загнана ў падпольле.

Аб вернасьці гэтай арганізацыі справе працуючых мас сьведчаць нядаўныя выступленьні яе ў Коўне, аб каторых у свой час мы давалі справаздачу.

### Скандал на пражскім зьезьде.

У Празе адбыўся зьезд міжнародавых спортыўных арганізацый „Sokoła“.

Адкрыцьце было злучана з ушанаваньнем памяці вялікага чэскага рэформатара—Гуса, спаленага з распараджэньня айцоў духоўных таго часу. Гэта была тым большая ганьба, што Гусу самі-ж кардыналы былі выдалі пропуск.

Польскі сокал, апанаваны ксяндзамі, адмовіўся пахіліць галаву перад вялікім мучанікам за справядлівасьць і выйшаў са зьезду.

### Забастоўка вуглякопаў у Англіі.

Ужо трэці месяц трывае сярод вуглякопаў безрабоцьце. Нястача вугальля адчуваецца па ўсей Англіі надта востра.

Бяда і голад гасьцяць у хатах гэраічна змагаючыхся вуглякопаў. Настроі, аднак, сярод работнікаў ня згодніцкія, а баявыя.

Як піша карэспандэнт „Robotnika“ (№ 178), часта можна пачуць гэтакую гутарку: „змагацца мусім. Калі-б мы і праігралі—будзем ведаць, што не здаліся бяз бою. Дый праіграны бой не аслабіць нашага духа“. Гэты-ж самы карэспандэнт адважваецца, аднак, кпіць над правадыром вуглякопаў Кукам, называючы яго „камунізуючым“, занадта ваяўнічым“ і г. д.

Вось да чаго ўпала ППС (Польская Партыя Сацыялістычная).

Англійскі ўрад, ідучы нага ў нагу з капіталістамі, правалок праз парлямант закон аб збольшаньні часу працы ў вугальных капальнях на адну гадзіну. І гэта не настрашыла вуглякопаў. Выканаўчы камітэт іхняй фэдэрацыі адкінуў прапазіцыі аб прадаўжэньні рабочага дня. Змаганьне трывае далей.

Сэкрэтар англійскага саюзу вуглякопаў аблічыў, што забастоўка зрабіла капіталістам страты 410 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў, чым маглі-б яны аплачваць мільён работнікаў у працягу больш, як 3 х гадоў...

### Забастоўка ў Нью-Йорку.

40 тысяч работнікаў конфэкцыйнага прамыслу распачалі забастоўку. Дамагаюцца яны падвышкі платы і запэўненьня хаця-б 36 гадз. работы ў тыдзень.

### Рэвалюцыйны рух у Гішпаніі.

Адначасна з пагрозамі ўзнаўленьня вонкавай вайны, расьце ў Гішпаніі і рэвалюцыйны рух проці дыктатуры дэ Рывэры. Звольненыя дыктатарам са службы генаралы разьвілі шырокую агітацыю сярод войска, якое пачынае адмаўляць послуху дэ Рывэры. Цэлыя акругі, як Валенсія, пачалі абвяшчаць сябе незалежнымі ад Мадрыту. На чале з сваімі генараламі... кароль выехаў за-граніцу,—адны кажуць: дзеля таго, каб даць магчымасьць Рывэры вольным тэрорам задушыць паўстаньне; другія—наадварот — кажуць, што кароль парваў з Рывэрай і падтрымлівае паўстаньне проці дыктатара, каб яго скінуць. Праўда тое, што паўстаньне шырыцца і можа ператварыцца ў рэвалюцыю, у якой паляціць—ня толькі Рывэра, але можа і кароль.

### Пасьля няўдачы плебісцыту ў Нямеччыне.

Усёнароднае галасаваньне ў Нямеччыне — у справе адшкадаваньня былых каралёў за іх маёнткі—скончылася, як ведама, няўдачай. Плебісцыт прызнаны няважным, бо ў галасаваньні прыняла ўчасьце менш паловы ўсіх выбаршчыкаў.

Цяпер справа адшкадаваньняў ізноў вярнулася ў Рэйхстаг (парлямант), і камісія пачала апрацоўваць—разам з урадам — кампрамісны праект закону. У прынцыпе адшкадаваньне прынята, толькі трэба апрацаваць дакладна, за што плаціць, а што прызнаць сканфіскаваным рэвалюцыяй — „бяз выкупу“.

Як аблічаюць нямецкія нацыяналісты, усяго разам будзе зьвернена былым манархам Нямеччыны ўсялякіх маемасьцяў—на 3 мільярды залатых марак... На тры мільярды павялічыцца грашовая моц вогнішчаў нямецкага манархізму... Варта добра падумаць над тым, чым гэта перамога нямецкай правіцы пагражае,—дый ня толькі нямецкаму народу.

### Новы францускі ўрад.

У склад новага францускага ўраду Брыяна, як прем'ера і міністра замежных спраў, і Кайо, як міністра фінансаў, уваходзіць 16 міністраў — з радыкальнай лявіцы, а толькі 4—з умяркаванай правіцы. Гэткі левы склад ураду — рэзультат рашучага націску Кайо, які паставіў першым варункам, каб ня было ў габінэце Пуанкарэ і яго прыяцеляў, чаго вельмі хацеў Брыян. Кайо, апрача партфэлю фінансаў, будзе заступнікам прэм'ера, дый, як сам казаў сваім прыяцелям, мае мець рашучы ўплыў на ўсю ўнутраную палітыку ўраду. Дзеля таго ён, здаецца, сам выбраў кандыдата на міністра ўнутраных спраў, разам з якім і будзе праводзіць сваю праграму. Гэту апошнюю Кайо высказаў у гэткім сказе: „Парадак у фінансах і спакой на вуліцах!“

У галіне міжнародавай палітыкі Кайо трэбуе ад Брыяна рашучай зьмены палітыкі Францыі. З Нямеччынай ён мае рабіць цесны эканамічны саюз, а з другога боку будзе імкнуцца да поўнай незалежнасьці Францыі ад англійскіх і амэрыканскіх банкіраў... З гэтага відаць, што запраўдным прэм'ерам будзе (прынамся—хоча быць!) Кайо, у якога хопіць на гэта энэргіі, якой у Брыяна хапае толькі на красамоўства. Але — ці доўга ўтрымаецца Кайо пры ўладзе, гэта—пытаньне, бо ён мае страшэнных супраціўнікаў, як на лявіцы, таксама і на правіцы.

### Ці новая вайна ў Марокко.

Як ведама, Абд-Эль-Крым здаўся на ласку перамогшай яго Францыі і мае быць адвезены на далёкі востраў Мадагаскар, (француская калёнія на ўсходзе Афрыкі). Можа Францыя гэтым на бліжэйшы час і вырашыла справу сваіх афрыканскіх валадзеньняў. Але гішпанцам дык зусім ня хочуць пакарацца пабітыя для іх Францыяй марокскія плямёны. Павадыр аднаго з гэтых плямёньняў, Мулай Ахмэт, зьвярнуўся да ўсіх народаў Рыфу і Марокка з адозвай, абвяшчаючы сябе наступнікам Абд-Эль Крыма і заклікаючы ўсіх — да новай сьвятой вайны з гішпанцамі. Армія новага павадыра паўстаньня расьце, і гішпанскім гарнізонам пачынае ізноў рабіцца горача...

### Узнаўленьне проціанглійскага руху ў Кітаі.

У радзе кітайскіх мест адбыліся шматлюдныя дэманстрацыі проці англійцаў, арганізаваныя радыкальна незалежніцкай партыяй. Рэзалюцыі, якія прымаліся на гэтых дэманстрацыях, заклікаюць да ўзнаўленьня байкоту Англіі, якую кітайскі народ лічыць галоўнай віноўніцай усіх яго бед. Гэткія маніфэстацыі адбыліся навет на тэрыторыі, якая знаходзіцца пад уладай англійскага найміта генарала Ву-Пэй Фу. Сярод народу пачаўся паварот— у бок Радавай Расеі, якая адна толькі шчыра выступае проці англійскага панаваньня над Кітаем.

## „Зьезд Заходняй Беларусі“—„доктара“ Павлюкевіча.

### Як зьбіралі „дэлегатаў“.

27 чэрвеня адчыніўся ў Вільні так-званы „Зьезд Заходняй Беларусі“.

„Зьезд“ меў адбыцца ў нейкай „Беларускай Хатцы“, але „хатка беларуская“ — яшчэ неяк ня была збудавана, дык „зьезд“ адбыўся ў жыдоўскім тэатры „Палас“.

Наш карэспандэнт налічыў усяго на „зьезьдзе“—„разам з паліцыяй, гасьцямі і з абслугай— да 115—120 асоб“. Няма чаго казаць, што ніякіх выбараў на мясцох не рабілі. Папросту сам Павлюкевіч ці яго малайцы, або паліцыянты, асабіста „выбіралі“ людзей, на якіх рахавалі, як на верных. Вязьлі і несьвядомых і малалетніх, рахуючы, што на мейсцы патрапяць іх „абрабіць“ — ці злотымі, ці гарэлкай, ці пагрозамі... Але і гэткага „прадстаўніцтва“ ня мела на „зьезьдзе“ агромная большасьць паветаў Зах. Беларусі. За тое некаторым вёскам дык пашанцавала зашмат: Сіняўка, дзе жыў ды калечыў людзей (з дазволу ваяводы Рачкевіча!) „доктар“ Павлюкевіч, прыслала аж 8 „дэлегатаў“. Нейкая Казлоўшчына дала 6 „дэлегатаў“. Былі малалетнія хлапцы—па 14, 15 гадоў. Затое цэлыя паветы, як Бельскі, Косаўскі, Беластоцкі, Сакольскі і шмат інш , ня прыслалі навет такіх „дэлегатаў“.

Шмат было „дэлегатаў“ ад.. віленскіх вуліц, нічога супольнага з беларускім народам ня маючых. За тое—некаторыя сяляне, што неяк прыехалі з запраўднымі мандатамі ад вёсак — саматугам, без „запросін“ — проста пачуўшы пра нейкі зьезд, — ня былі дапушчаны Павлюкевічам. Напрыклад, пазбаўлены голасу прадстаўнік вёскі Лазяны, Лідзкага пав. Беліцкай гміны — грамадз. Антон Шацюк, 43 гад., таксама—прадстаўнік Чамерскай гміны—Рыгор Рыгаровіч, ды прадстаўнік Стаўпецкага пав., Шалькевіч Уладзімір, які быў пушчаны ў салю, але толькі—як госьць.

З гэтага ўсяго відаць, якое права меў гэты „зьезд“ называцца „зьездам усей Заходняй Беларусі“ ды гаварыць ад яе імя. Няма чаго ўжо казаць аб тым, што на зьезьдзе ня было прадстаўнікоў іншых палітычных напрамкаў ці партыяў, якія пэўна-ж маюць без параўнаньня большыя ўплывы сярод сялянства Заходняе Беларусі, як дэфэнзыўная „партыя“ Павлюкевіча —Ні ад Сялянскага Саюзу, ні ад ксяндзоўскай „хадэцыі“, ні ад Грамады людзей ня было. Ня было на зьезьдзе ні прадстаўнікоў літоўскага грамадзянства, ні навет —польскай правіцы, для якой так „шчыра“ працаваў заўсёды „доктар“, зарабляючы ў поце чала на кавалак... сала! „Сьвяцілі сваей адсутнасьцю“ навет тыя „дэмакраты“-пілсудчыкі, якія рэклямуюць Павлюкевіча ў сваіх газэтах дый прыймаюць яго ў сваіх габінэтах...

### Адчыненьне „Зьезду“.

Старшынёй „зьезду“ выбралі, ведама-ж, „доктара“ Павлюкевіча. У прэзыдыум увайшлі—Аляхновіч, Вярнікоўскі, Падбярэскі, Якімовіч, Кернажыцкі, сьвяшч. Сакол-Кутылоўскі, нейкі Скшыпец і інш. Старшыня чытае прывітальныя тэлеграмы ад рэктара Віленскага Унівэрсытэту (які ня хоча навет ведаць аб тым краі, дзе ён істнуе і коштам якога корміцца!) Праф. Зьдзехоўскага, ад ведамага польскага „дэмакрата“ Ледніцкага і інш. Пасьля старшыня—на крыкі, чаму няма паслоў?—тлумачыць, што запросінаў не паслалі паслам дзеля таго, што „ўсе беларускія соймавыя клюбы стаяць на іншым палітычным груньце“, (прасьцей: не прадаюць палякам Беларусі)... Але асабіста паслам кс. Станкевічу і Ярэмічу запросіны пасланы, дык чаму іх няма—ня ведае...

На прапазіцыю старшыні пасылаюцца прывітальныя тэлеграмы — прэзыдэнту Мосьціцкаму, прэм. Бартэлю, марш. Пілсудскаму і ваяв. Рачкевічу. Цікаўна, што ўвесь зьезд змушае Павлюкевіча словы „Усходнія Крэсы“ ў тэлеграмах замяніць славамі „Заходняя Беларусь“...

Пасьля гэтага амаль ня ўся саля пачала дамагацца, каб прывітаньне таксама было выслана і беларускім дэпутатам. Проці гэтага страшэнна паўстае Павлюкевіч, але змушаны паставіць пытаньне на галасаваньне. Прапазіцыя правалілася **большасьцю толькі 22 галасоў проці 14**; рэшта сяброў „зьезду ясна-ж жадала прывітаць паслоў, але **баялася** галасаваць за паслоў, бо галасаваньне адбывалася адкрыта—падняцьцем рук... А паліцыянты, навет у форме, паміма шпікоў, зараз-жа запісывалі, хто як галасаваў, ды пасьля ў перарыве распытываліся падрабязна: хто, ды скуль прыехаў і т. д., ды ўсё—сабе ў кніжку...

### Даклад „доктара“.

Першы даклад — аб агульным палітычным палажэньні чытае сам „доктар“. Даклэдчык раўнуе два „пляны адраджэньня беларускага народу“: адзін—абаперты на Усходзе, другі—на Захадзе, ці — прасьцей: першы ў сувязі з ССРР, другі — у лучнасьці з Польшчай. Дагэтуль прадстаўніцтва беларускага народу голасна на ўвесь сьвет заяўляла аб тым, што беларускі народ хоча лучнасьці з ССРР, і гэта рабіла ўражаньне, быццам усе беларусы камуністы (гэткае „ўражаньне“ як раз і вытварае, з даручэньня дэфэнзывы, уся праца

Павлюкевіча!)... Але гэта—няпраўда, і гэты зьезд мае даказаць усяму сьвету, што беларускае насяленьне Заходняй Беларусі любіць Польшчу і хоча разам з ёй — „будаваць супольны гмах яе дзяржаўнасьці“... „Нас лаюць беларускія паслы, але мы—у адказ на ...твораныя імі дывэрсыйныя банды (?!)—высоўваем праграму рэальнай гаспадарчай і культурнай працы ў Краі... Праўда, мы — у параўнаньні з выбранымі народам паслымі — самазванцы... Я—самазванец, але і Пілсудскі—таксама самазванец! (няпраўда: бо Павлюкевіча сьпярша пазваў Валэйша, пасьля п.п. Дваракоўскі і Рачкевіч!). „Гэній Пілсудскага адродзіць польскі народ“—як гэній Павлюкевіча, відаць, — беларускі... Беларускія паслы за чатыры гады не зрабілі нічога, а толькі страшэнна пагоршылі—як палажэньне, таксама і маральную апінію беларускага народу... Усё гэта паправіць мае — „наша праца“ (лякайства!)... Мы яшчэ слабыя, але, што мы — ужо сіла, даводзіць тое, што гэта мы разьбілі беларускі клюб у Сойме, раскалолі яго на варожыя, зьядаючыя адна адну групы...

### Дыскусія па дакладу Павлюкевіча.

Вучыцель **Данілевіч** кажа, што абвінавачаньне Павлюкевічам беларускіх паслоў, што яны нічога не зрабілі,—няслушнае. — Бо-ж не зрабілі нічога і жыдоўскія і ўкраінскія паслы. Не зрабіла нічога для свайго народу і шчырая польская радыкальная лявіца. Не зрабілі дзеля таго, што польскі ўрад—ня даў нічога зрабіць...

Вучыцель **Чатырка** дасьціпна раўнуе „зьезд“ Павлюкевіча з канём, што, хоць запражаны быццам у цяжкі воз, лёгка і шпарка бяжыць, але гэта-ж — дзеля таго, што з усяго цяжкога возу беларускага жыцьця пад Польшчай ён вязе толькі адзін—перадок!.. Ці-ж учасьнікі „зьезду“ ня бачаць, што беларускі народ астаўся па-за зьездам? Мы ўсе—фальшаваныя „дэлегаты“, усе прыехалі не па выбару насяленьня, але па „запросінам“ гэтага „тымчасовага каня“, — усе сядзім на гэтым перадку... Дык першая і адзіная наша праца павінна быць толькі ў тым, каб мы на гэтым зьезьдзе толькі выбралі камісію, якая займецца скліканьнем другога—запраўднага выбарнага зьезду з усей Заходняй Беларусі, які ўжо і будзе выражаць волю беларускага народу Краю...

### Трэбаваньне амністыі.

Пасьля гэтага адзін з сяброў „зьезду“ (з Наваградчыны) зрабіў прапазіцыю, каб зьезд патрэбаваў амністыі для ўсіх палітычных вязьняў.

Ведама, што навет урад апрацоўвае „праект амністыі“, у якім мае „даравацьь“ кару ўсім, хто бароўся за „нацыянальныя і рэлігійныя правы народу“... На гэтае „лібэральнае“ становішча ўраду стануў і старшыня. Ен згадзіўся паставіць на галасаваньне прапазіцыю, але—каб амністыя не датычыла „камуністаў“...

Але гэткая „амністыя" фактычна амаль нікога з беларусаў ня звольніла-б з вастрогаў,—бо-ж польская паліцыя і дэфэнзыва—усьлед за Павлюкевічам, а за імі і польскія суды — лічаць усіх барацьбітаў за народную справу „камуністамі“... „Дзен. Віл.“ лічыць „камуністам“ навет... пасла Ярэміча! І гэта ўсё высьветлілася добра на зьезьдзе. Але, даючы бой на найбольш баявым пытаньні, Павлюкевіч змабілізаваў усе сваі сілы і рэзэрвы. Былі пушчаны ў ход пагрозы арыштам, пазбаўленьнем грошаў на паварот дамоў і г. д. З свайго боку апазіцыя, высунуўшая прапазіцыю, дамагалася даць магчымасьць вольнага голасу сумленьня кождага галасуючага, як гэта робіцца заўсёды і ўсюды ў найбольш важных галасаваньнях—шляхам тайнай падачы галасоў. Тайнасьці галасаваньня патрэбавала пісьменна група 10 сяброў зьезду. Але якраз гэтага тайнага галасаваньня найбольш баяліся махэры зьезду, дык і правалілі гэта—яўным галасаваньнем!

Трэці вучыцель **Астапчык** пачынае з перапросінаў, што ня можа гаварыць поўным голасам, бо яго толькі-што душылі за горла паліцыянты на „баданьні“... Аратар сьцьвярджае, што так-званы „закон аб правох меншасьцяў на ўласную мову“ быў папросту правакацыяй, бо-ж за выкананьне яго на мясцох паліцыя арыштоўвала і „бадала“ пэверыўшых „закону“ людзей... Цяпер прыйшоў ізноў да ўлады той, што калісьці йшоў да нас з лёзунгам: „вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі“... Меў ён поўную ўладу тады, мае, можа, яшчэ большую цяпер.. А дзе ж гэтая „вольнасьць ды роўнасьць“ для беларусаў?! Якой была, такой і асталася...

Сябра **Шышкоў** прапануе, каб зьезд выказаўся проці ўсялякіх зьменаў у Канстытуцыі і Выбарным Законе Рэспублікі.

### Школа і царква.

Пасьля перарыву, на вячэрнім паседжаньні зроблены былі даклады па школьнаму пытаньню, аб палажэньні праваслаўнай царквы і аб тэатры.

Усе дакладчыкі, пры ўсім жаданьні падслужыцца ўладзе, павінны былі — „перад тварам зьезду“ (які-б ён ні быў)—сцьвярдзіць, што — як у школе, так і ў царкве—дзякуючы польскай палітыцы—праз увесь час рабілася ўладай толькі руйнуючая праца... Але, як сьвяшч. Кутылоўскі, таксама і Якімовіч, вераць, што — „цяпер будзе ляпей“—за Пілсудскім... Чаму?—Таму, што Павлюкевіч ставіць цяпер „стаўку на Пілсудскага“. Ізноў пытаньне: чаму?—Адказ ясны: бо ў канцы-канцоў—у руках Пілсудскага ключ ад тэй „скрыні“, дзе ляжыць нешта, што найбольш цікавіць паноў з „Рады“ ў жыцьці...

### II дзень „зьезду“.

Паседжаньне пачынаецца дакладам нейкага Більдзюкевіча аб зямельным пытаньні ў Заходняй Беларусі. Здаецца, гэта — той самы Більдзюкевіч, што разам з Валэйшам „рабілі манэту“ на шулерні ў „Грамадзянскім Сабраньні“, былы сябра Рады Паўлюкевіча і Валэйшы...

Дакладчык вельмі доўга разводзіцца аб тым, як у... Усходняй Беларусі крыўдзяць беларускіх сялян, аддаючы іхнюю зямлю жыдам, а саміх сялян высылаюць у Сібір... Ён рашуча проці адабраньня зямлі бяз выкупу, бо... адбяруць і яго маёнтак! Зямельная рэформа павінна праходзіць—чым павальней... А пакуль-што трэба паляпшаць зямлю тую, што ёсьць.—Бо—„зямлі шмат, толькі яна—дрэнная“... Толькі вось на пытаньне: у каго шмат зямлі?—у хлебароба, ці ў яго жываедаў? — На гэта „дакладчык“ не адказаў...

Дыскусія па дрэннаму і дурному дакладу гэтага панка была страшэнна вострая. Кожнае слова апазіцыі пільна лавілася сялянамі ды сустракалася гарачымі воплескамі. Апазіцыя рашуча трэбавала, каб уся зямля бяз выкупу была адабрана ад паноў і аддана сялянам,—дамагалася, каб спынілі асадніцтва, каб лясы былі ўласнасьцю народу. Сябры „зьезду“ скардзіліся на страшэнныя бясправіі, якія творацца сярод белага дня ў Краі. Беларускае насяленьне не атрымала ніякай помачы ад Польскай дзяржавы на адбудову. З багатых лясоў Бацькаўшчыны яе працоўныя сыны яе ня маюць дрэва на хаты, а ў той-жа час гэтае багацьце Краю рабункова вывозіцца за-граніцу. Польскі дзяржаўны Сельска Гаспадарчы Банк спаганяе з сялян даваенныя пазыкі ў расейскім банку (абшарнікі-ж ня плоцяць нічога!), але тыя ашчаднасьці, што ў Расейскі Банк сяляне злажылі на кніжкі, гэтага Польская Дзяржава і ня думае варачаць... Расказвалі, што ў Радзівілаўскіх маёнтках у Наваградчыне „адбудавана“ паншчына, што ўсюды паліцыя ўмешываецца ў цывільныя споры сялян з абшарнікамі, касуе сэрвітуты і г. д. Страшэнныя рэчы расказываліся аб гвалтах „новых памешчыкаў“—ваенных і цывільных асаднікаў, — гвалтах, перад якімі бляднеюць навет уціск і вызыск старых паноў-абшарнікаў... Асаднікі самі робяць самасуд, дый ня толькі—угалоўны, але і цывільны...

Хто быў нат‘ на гэтым штучным зьезьдзе, вынес уражаньне магутнай сялянскай дэманстрацыі пратэсту і абурэньня проці тэй палітыкі і тых гаспадароў, якім аддана на самаволю цяпер Заходняя Беларусь... Дарэмна перапужаны старшыня, баючыся за сваю пэнсію, крычыць, абрывае, пазбаўляе слова, пагражае... Яго ня слухаюць, — бо хочуць чуць праўду...

### У камісіях.

Урэшце ўсе прапазіцыі здаюцца ў камісіі, якіх выбіраюць аж 4: палітычная, рэлігійная. школьная і зямельная.

У камісіях, якія павінны былі апрацаваць „рэзалюцыі“ так, каб можна было, не баючыся за пэнсіі панам-„радным“, аб‘явіць іх ад імя „зьезду“, таксама вялася страшэнная барацьба між кіраўнічай бандай наймітаў і выдзеланай зьездам актыўнай апазіцыяй, якую пасыўна падтрымлівала вялізарная большасьць зьезду, толькі стэрарызаваная малайцамі „доктара“.

### „Галасаваньне“.

Пасьля перарыву ізноў узгарэўся бой, на гэты раз ужо—апошні.

Рэзалюцыя аб амністыі, аднагалосна прынятая ў палітычнай камісіі, дамагалася амністыі для усіх палітычных вязьняў—бяз вынятку; апрача гэтага, камісія трэбавала скасаваньня кары сьмерці, аўтаномнага Сойму ў Вільні, суда прысяжных і інш. Але старш. Павлюкевіч паставіў на галасаваньне не яе, але—сваю ўласную рэзалюцыю — аб тым, каб выключыць з амністыі—„камуністаў“.

Пачаўся страшэнны шум у салі... Крычалі, каб апазыцыя не пакідала астаўшыхся сымпатыкаў. Раздаваліся крыкі: „Ганьба прэзыдыуму!“

Пад страшэнны шум Павлюкевіч „галасуе“ сваю рэзалюцыю, якая прымаецца „большасьцю“ 22 галас. проці 15, пры рэшце ўстрымаўшыхся. Тады апазіцыя пакідае зьезд...

Нарэшце ўсё сьціхла, і „праца“ пайшла цяпер ужо гладка .. Астаўшыяся зусім паджалі хвасты. Каб дадаць яшчэ страху больш, у салю было дадазена яшчэ больш паліцыі. Прыбыў сам камісар Акружнай Паліцыі...

Цяпер старшыня цэрамоніўся яшчэ менш. Аб‘яўлялі рэзалюцыі—ня тыя, што былі апрацаваны ў камісіях, але — сфальшаваныя; з іх тэксту спакойна сабе выкідаліся „нялоўкія“ мейсцы. Рэзалюцыі камісіі не абвяшчаліся... Былі пратэсты сяброў камісіяў, але на іх ужо не зварачалі ўвагі.

Найбольш „адказная“ рэзалюцыя па зямельнаму пытаньню была галасавана картачкамі. Каб узмоцніць лік галасоў „сваіх“, вучань Кавэрда „стварыў“ шмат новых „дэлегатаў“ — з гасьцей, раздаўшы ім „зялёныя білецікі“. Гэткіх актыўна працаваўшых на „зьезьдзе“ вучняў было штосьці з пяць.... Гасьцям іншага толку не давалі навет дарадчага голасу... За спробу гаварыць некалькіх „гасьцей“ Павлюкевіч сказаў папросту выкінуць „за каўнер“ з салі, што і зрабіла паліцыя.

Урэшце—выбары ў „Нацыянальную Раду Заходняе Беларусі“ адбыліся ўжо зусім спакойна. Старшыню выбралі адкрытым галасаваньнем (!). Сяброў Рады галасавалі тайна. Выбраны Аляхновіч, Яхімовіч, Вярнікоўскі, Ярош (з Горадзеншчыны) і Вітко (так сама — з Горадзеншч.) і сьвяшч. Сакол-Кутылоўскі. Сябрамі Рады будуць і ўсе старшыні мясцовых „сэкрэтарыятаў“.

### Драбніцы.

Цікаўна, што праз увесь час зьезду на сцэне, дзе сядзеў прэзыдыум, навакол асобы пана старшыні Павлюкевіча стаялі 4 паліцыянты з ружжамі, якія ня толькі баранілі яго дарагую асобу ад усялякіх „неспадзеванак“ (як у Баранавічах!), але і слухалі ўсіх яго прыказаў, як свайго начальства...

Яшчэ цікаўней, як расказываюць вачавідцы, што ў часе паседжаньня „зьезду“ да гмаху зробленай з жыдоўскага тэатру—на два дні!—„беларускай хаткі“ пад‘ехаў добры воз — з гарэлкай... Дзень быў сьвяточны, не закончыўся датаго-ж яшчэ і час набору рэкрутаў, калі строга—пад вялікай карай—законам забаронена прадажа ды піцьцё гарэлкі. Дык паліцыянт, які стаяў каля гмаху, зараз-жа падскочыў да возу і, заарыштаваўшы возчыка, хацеў ужо цягнуць яго да цыркулу на пратакол. Гэта ўбачылі „малайцы“ Павлюкевіча. Зараз-жа паляцелі да старшыні. Той выслаў „ратаваць гарэлку“ Вярнікоўскага. Вярнікоўскі, мастак на розныя штучкі, падыйшоў, як „начальства“, да паліцыянта; грозна прыказаўшы яму пакінуць воз, паказаў яму нейкую „паперку“, якая на стануўшага адразу „ва фрунт“ паліцыянта зрабіла магічны ўплыў... „Прыказ з Варшавы“, чуліся даляцеўшыя словы Вярнікоўскага... І дзьве вялізарныя скрыні з гарэлкай, атрымаўшы „мандант“, ужо, як паўнапраўныя „дэлегаткі“, дехалі ў буфэтную салю „зьезду“...

Баюць яшчэ шмат анэкдотаў і фактаў, але ўсяго не перакажаш. Баюць, быццам пан старшыня атрымаў на „зьезд“ 22 тысячы злотых, а яму каштаваў „зьезд“ толькі 14.000... Дык—„чыстага даходу“ з прадпрыемства было—8.000...

Чулі, як на зьезьдзе лаяліся ды крычалі пакрыўджаныя „разрахункамі“ дэлегаты; „за нашыя грошы справіў сабе мебляў на 2.000, ды жонцы накупіў розных „шаляў“, а нам цяпер пехатой ісьці дамоў“.

Сцьверджаная праўда ў гэтым—тое, што запраўды шмат хто з „дэлегатаў“—за кару—не атрымаў належнай ім сумы на падарожу дадому.. ўжо пасьля 2—3 дзён, як зачыніўся „зьезд“, бачылі ў Вільні бадзяўшыхся „дэлегатаў“, якія хадзілі па месьце, шукаючы, дзе б пазычыць грошаў на паваротны курс...

### Пратэст апазіцыі.

Прыймаючы пад увагу,

1) што зьезд, скліканы Часовай Беларускай Радай у Вільні на 27-га і 28-га чэрвеня г. г., не зьяўляецца зьездам Заходняй Беларусі, бо на ім не прадстаўлены былі ўсе паветы і гміны Заходняе Беларусі і амаль ня ўсе ўчасьнікі зьезду былі асабіста заклікаyы п. Павлюкевічам;

2) што гэны зьезд зьявіўся зьездам партыйна-аднабокім, складзеным з прыхільнікаў п. Павлюкевіча, на які не дапушчаны былі прадстаўнікі іншых палітычных арганізацыяў і не заклікаены былі беларускія паслы Сойму і Сэнату,

## З жыцьця „Грамады“.

### Арганізацыйныя справы.

Падаецца да агульнага ведама, што пінскі павятовы камітэт Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады месьціцца пад адрасам: Пінск, Дамініканская вул. № 59, кв. 1. Камітэт адчынены што-дня.

Горадзенскі павятовы камітэт Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады: — Горадня, вул. Ягелёнская № 4, кв. 1. Адчынены ад 17 да 19 гадз. што-дня.

Гурток „Грамады“ ў Косаўскім павеце з‘арганізаваўся ў вёсцы Яглевічы, Боркогічыцкай гм. Працуе што-дня.

Гурток „Грамады“ ў Наваградзкім павеце—у вёсцы Сулятычы, Гарадачанскай гм. Працуе што-дня.

Гурток „Грамады“ ў Дзісьненскім павеце — у м. Празароках, Празароцкай гм. Працуе што-дня.

Акрамя павятовага камітэту ў Пінскім пав., істнуюць гурткі: 1) ў вёсцы Дубчыцы, Марачанскае гм., і 2) ў вёсцы Храпін, Марачанскае гм. Гурткі працуюць што-дня.

У в. Сінчыцы, Марачанскае гм., Пінскага пав., 28./VI. створаны Сінчыцкі Гурток Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады. Камітэт Гуртка працуе што-дня.

У месьце Вялейка 27./VI. 1926 г. створаны Вялейскі Гурток Бел. Сялян. Работ. Грамады. Камітэт гуртка працуе што-дня.

У вёсцы Хлюпічах, Воленскай гм., Баранавіцкага пав., 27./VI. 1926 г. створаны Хлюпіцкі Гурток Бел. Сялян.-Работ. Грам. Камітэт гуртка працуе што-дня.

У вёсцы Кашачы, Манькаўскае гм., Пастаўскага пав., 27-га чэрвеня 1926 г. створаны Кашачынскі Гурток Бел. Сялян.-Работ. Грамады. Камітэт гуртка працуе што-дня.

навет пражываючыя ў Вільні, ня гледзячы на неаднаразовую заяву аб гэтым сяброў зьезду;

3) што на зьезьдзе рабіліся пагрозы і гвалты над апазіцыйнымі сябрамі зьезду;

4) што на зьезьдзе адкідаліся тыя рэзалюцыі, зьмест каторых падтрымліваецца навет польскімі дэмакратычнымі і лявіцовымі партыямі і што гэны зьезд прыняў напрамак яўна прадажны, —ніжэйпадпісаныя сябры зьезду, ня могучы ўзяць на сябе адказнасьць за ўсе вынікі гэнага зьезду, ня лічачы гэны зьезд паўнапраўным і дабіваючыся сазыву зьезду ўсяе Заходняе Беларусі, на каторым былі-б прадстаўнікі ўсіх палітычных беларускіх арганізацыяў, на знак пратэсту пакінулі салю паседжаньняў.

28./VI. 1926 г. *(10 подпісаў)*
м. Вільня.

---

Апрача інфармацыяў уласнага карэспандэнта, мы карысталіся справаздачамі „Виленскаго Утра“ і „Słowa“.

# ХРОНІКА.

**Да справы забароны мітынгаў Грамады.** У апошнія часы адміністрацыйныя ўлады туга, а то і зусім не даюць дазволаў паслам Грамады на мітынгі. Так ваявода Палескі ня даў дазволу ў пачатку траўня на мітынг у Пінску, ваявода Віленскі ня даў дазволу на мітынг у дзень 24. VI. у сяле Мосары, Пастаўскага павету, і на дзень 2. VII. у Будславе, Вялейскага павету, і на 7-га ліпня ў вёсцы Чарневічах, Дзісьненскага павету.

А як польскім паслом вызваленцам ды такзваным польскім сацыялістам дык дазволы даюцца заўсёды, і гэныя паны ўсюды круцяцца на нашых землях.

У той час, як нашым паслом ня дадзена было права выступіць у Мосары 24. VI, інструктару партыі „Wyzwolenie“ (Вызваленьне) (значыцца не паслу) дадзены быў дазвол зрабіць там мітынг у той-жа дзень.

Паўлюкевічаўскім-жа кумпанам дык агулам дадзена шырокае права рабіць усюды мітынгі і сабраньні.

З гэтага бачым цяпер, каго хацелася-б уладзе бачыць... у новым Сойме!

**Мітынг у Горадзеншчыне.** Горадзенскі Павятовы Камітэт Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады дастаў дазвол ад Горадзенскага Старосты на мітынгі ў Горадзенскім павеце. Мітынгі адбудуцца: ў м. Крынках 8-га ліпня, у м. Лунне 14-га ліпня, у м. Індуры 20-га ліпня, у м. Скідэлю 27-га ліпня.

На мітынгах маюць выступаць пасол Валошын і Старшыня Горадзенскага Павятовага Камітэту Мік. Якімовіч.

**Суд над рэдактарам Шылам.** 6./VII. 1926 г. адбыўся апэляцыйны суд над былым рэдактарам баларускіх газэт М. Шылам, які зьменшыў кару з 1 году крэпасьці на 6 месяцаў.

**Падручнікі даражэюць!** „Саюз Выдаўцоў“ ухваліў ад 2 гэтага месяца падвысіць цану школьных падручнікаў. Выдавецтва „Atlas“ ужо пачало прадаваць кніжкі з 20 проц. падвышкай.

**Ліквідацыя фабрык серчыкаў у Вільні.** „Wilja“ і „Znicz“ маюць быць у найбліжэйшым часе куплены аднэй швэдзкай фірмай; машыны будуць вывезены.

Фабрыкі, як у нас, так і на цэлым сьвеце, пабудаваны работнікамі за грошы, злупленыя з тых-жа работнікаў.

Імпэрыялістычная буржуазія Польшчы, [якая вечна лятуціць яшчэ і аб Усходняй Беларусі і Украіне, а ня ўмее гаспадарыць з тым, што ўжо захапіла,—распрадасьць ужо скора ўсе народныя багацтвы нашага краю заграні́чным капіталістам...

**Зьезд рабінаў.** Дн. 29 г. м. адбыўся ў Вільні зьезд рабінаў „Усходніх Зямель“.

Агульнае уражаньне з яго, што рабіны вельмі баяцца, каб ня скончыліся дні, калі ня сеяўшы, ня жаўшы, а толькі баламуцячы народу галаву,—супольна з іншымі айцамі духоўнымі, можна сыта і выгадна жыць.

Пастанавілі яны змагацца з пашыраючымся сярод жыдоўскай моладзі бязвер'ем і выхоўваць яе ў духу гетто (гэта значыць поўнага абасабленьня ад іншых народаў)!

Жыдоўская моладзь сьмяецца сабе з гэтых зьездаў. Сягодня, калі найлепшая частка яе, у цеснай еднасьці з іншымі ўціснутымі, змагаецца за новае, лепшае жыцьцё для ўсіх, — не зацягне яе ў сеці рабінаў ніякая сіла.

**Сэнсацыйныя арышты.** У ноч на 2 ліпня віленскай пракуратурай арыштаваны дырэктары Віленскага Рольніча - Прамысловага Банку п. п. Янкоўскі, радны Мястовай Рады м. Вільні, былы шэф фінансавай сэкцыі Магістрату, Козел-Паклеўскі і Цецерскі. Галоўны дырэктар пасьпеў неяк выехаць за-граніцу, баюць—у Літву... Панам віленскім фінансістам закідаюць шмат розных надужыцьцяў.

Ну, на што іншае, а на гэта польская буржуазія—малайцы...

**Суд над пракурорам-зладзеем.** Суд, які адбыўся цяпер у Вільні над пракурорам Гурчынам, заслуговывае ўвагі навет прывыкшых ужо да ўсякіх зладзействаў.

Гурчын—гэта ж чалавек, якому было даверана рашаць аб жыцьці не аднаго дзесятка абвінавачаных.

Украў пан пракурор 65 тысяч злотых. Цікава, што, калі выкрылася кража, начальнік Гурчына, цяперашні сьведка на судзе пракурор Головня, хацеў скандал зьменшыць і паслаў Гурчыну рэвальвэр, каб той скончыў самагубствам Гурчын, атрымаўшы „пасылку“, палажыў яе спакойна і пайшоў у кіно. Відаць, ён лічыў сваім „сьвятым правам“ красьці зьбітыя з мужыцкага поту дзяржаўныя грошы.

Прыгаварам суда Гурчын засуджаны на 5 гадоў вастрогу.

**Афіцыяльны курс грошы на 6-га ліпня.** Даляр — 9 зл. 60 гр. Залаты рубель — 4 зл. 93 грошы.

6. VII. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 9,70. Чырвонец 44 зл.

# З жыцьця Горадні.

× **Мітынг Сялянска-Работніцкае Грамады.** 27 чэрвеня 1926 г. ў мястовым тэатры адбыўся мітынг, наладжаны павятовым Камітэтам Грамады.

Мітынг адчыніў старшыня камітэту М. Якімовіч.

З дакладамі выступалі: 1) на тэму „беларускі рух і клясавае змаганьне“—Якімовіч М. і 2) „палітычнае палажэньне“—дэпутат Сойму Беларускай С.-Р. Грамады Валошын.

Хаця ў пачатку першага дакладу аратар непатрэбна ўставіў у палітычную прамову выклад гісторыі,—ён скора справіўся з гэтай часткай і перайшоў да сучаснасьці. Жывое заінтэрэсаваньне збудзіла ў прысутных праграма Бел. Сял. Раб. Грамады. Калі ў канцы прамоўца крыкнуў „Няхай жыве адналіты фронт сялян і работнікаў“, „Няхай жыве салідарнасьць працоўных“, — саля адказала галосным „Няхай жыве Сялянска Работніцкая Грамада“.

Другім гаварыў дэпутат Валошын. Падкрэсьліў ён, што пасьля перавароту Пілсудскага гаспадаруюць, як гаспадаравалі і раней, абшарнікі і буржуазія. Намаляваў страшны абразок нашага жыцьця: рост безрабоцьця дасягаючага ўжо разам з незарэгістрованымі $1^1/_2$ мільёна душ, ды голад і нядолю вёскі. Адзіным заваяваньнем перавароту, казаў далей пасол, ёсьць тое, што Пілсудскі адразу-ж павялічыў усім афіцэрам пэнсію на 25%, у той час калі салдаты атрымоўваюць 50 грашоў у дзень.

Армія зьядае ў Польшчы 39% усяго бюджэту, на кожных 20 афіцэраў ёсьць адзін генарал.

Вялікія грошы йдуць на турмы і паліцыю.

Адзіным лекам буржуазіі на ўсе хваробы зьяўляецца турма.

Падчас прамовы сябра ППС (Polskiej Partji Socjalistycznej) прабаваў перарываць, але прысутныя накінуліся на яго з крыкамі „здрайца работніцкай клясы“! Дык пэпэсавец Гонэрка мусіў уцякаць з салі.

Пасьля апошняга слова старшыні прысутныя аднагалосна прынялі рэзалюцыю, у якой дамагаюцца: 1) Сял.-Работн. улады; 2) звальненьня ўсіх палітычных вязьняў і скасаваньня даразных судоў і кары сьмерці; 3) свабоды самаазначэньня нацыянальным меншасьцям у Польшчы; 4) зямлі бяз выкупу для сялянства і скасаваньня асадніцтва; 5) 8 мі гадзіннага рабочага дня, рэгістрацыі безработных і выдачы ім дапамогі, увядзеньня работніцкага кантролю над фабрыкамі.

Прэзыдыумам мітынгу атрымана тры букеты кветак.

**Прысутны.**

× **Замест 8-мі гадзіннага—16-17 гадз. рабочы дзень.** На агародах у Станіслававе каля Горадні працуюць кабеты ад 6 раніцы да 9-10 гадз. веч.

Плацяць ім за гэту катаржную работу 1 зл. 50 гр. у дзень.

× **Безрабоцьце.** У Горадні паводлуг апошніх падлічэньняў ня мае працы каля 1800 людзей. Невялічкая толькі частка іх устроілася на магістрацкіх работах, ды і тыя робяць 3 дні ў тыдзень. Дастаюць за гэта ў тыдзень 8 зл. 67 грошаў.

# Карэспандэнцыі.

## Укрытая паншчына.

(Пінскі пав.).

Бяда ў нас з падаткамі, але ня меншая з сэрвітутамі. У вёсцы Неўля абшарнік накладае за сэрвітуты большыя падаткі, як улада за зямлю. Два дні працуеш для сябе, а трэці абшарніку. Нашая вёска кругом апаясана панскай зямлёй, за кожны крок выхаду—трэба адрабляць, бо плаціць няма чым, а абыйсьціся без абшарніка—ня можам: У яго-ж усё багацтва. Дзяруць яны з нас—сколькі могуць. Селянін ня мае за што купіць сабе і сваей сям'і вобуві, ідзе ён драць панскую лазу на лапці. Здаецца-ж, лаза шкодзіць толькі зямлі, пан мог-бы цешыцца, але дзе там! Тры дні дзярэш, а за гэта два мусіш працаваць у яго. Можна лупянуць—ну дык і лупіць!..

Паміж сэрвітутамі ёсьць і нашы кавалкі зямлі, на якіх можна зьбіраць грыбы і ягады. Ісьці трэба праз панскі і іначай няма права, як з пропускам. Што-ж: пропуск ён дасьць, але ізноў за адработак, так дні тры на лета.

Вось гэтая самая паншчына, аб якой баяць старыя людзі, істнуе і цяпер. Тады яна была яўная, а цяпер скрыта. Скрыта для тых, хто ня быў у Піншчыне, бо ў нас яе надта добра ўсе бачаць.

**Беззямельны.**

## Сенакос.

(Піншчына).

Нашы сяляне вёскі Неўля маюць свайго сенакосу надта мала. Прыходзіцца працаваць на абшарніцкім. Дык кожны, ці то беззямельны, ці серадняк, невыключаючы нат кулакоў, ідзе абрабляць абшарніцкія балоты, якія пасьля ваенных часоў зарасьлі кустамі так, што трэба спачатку іх выцерабіць.

Праца гэта была выканана дарма, і вось цяпер, калі больш ёсьць прыступных месц, іх захопліваюць кулакі, якія заўсёды йдуць з абшарнікамі і пачалі выкарыстываць нашу беднату. Раздаюць балота ўсякія паверанныя абшарнікаў. Ведама-ж — сенакос ня роўны: ёсьць аброблены ўжо кавалкі і дзікія. Кулак дасьць паверанаму пару злотых, напоіць яго гарэлкай і атрымае тую пожню, якую захоча.

Дай ты яму раду, калі ён мае грошы на гарэлку, а наш брат ня відзіць куска хлеба!..

Беззямельнаму забралі з-пад носу яго працу, — узноў ён ідзе церабіць кусты, працуе і днём і позным вечарам, а пасьля заграбуць лепшае, аброблёнае — кулакі...

Гэткая наша доля! Як ні бійся, ня вылязеш з пад ярма абшарнікаў і кулакоў.

**Беззямельны.**

## Цяжка жыць.

(З Стаўпецкага пав.).

Цяжка жыць нашаму селяніну! І апісаць аб гэтым трудна. Падаткі бяруць непамерна і бяз ліку, так што селянін ня ведае, калі сколькі й за што трэ плаціць. Экзэкутары разьяжджаюць па вёсках і — маеш, ня маеш—забіраюць апошняе. А цяпер, перад летам, калі хто і мае хлеб, дык толькі ледзь хопе да новага; а экзэкутары проста ад губы апошні асушак адрываюць.

Дый сяляне ня ведаюць, колькі трэба плаціць, бо ня прыслалі ўперад „наказаў платнічых“. І экзэкутары бяруць, колькі хочуць,—і хто іх там спраўдзіць!? І „маральная санацыя“ не памагла нам: як было цяжка, так і ёсьць!.. Нашы гмінныя рады верна служаць толькі абшарнікам, а сялян кабаляць! Усе дарогі папраўляць мусяць сяляне,—навет тыя, якія праходзяць праз панскія землі, ды якія ад вякоў правілі паны. А правяць дарогі толькі там, дзе выгадна і патрэбна гэта паном; і гэтак пастанаўляе гмінная рада — служка абшарнікаў і старосты.

У Сьвержанскай, Засульскай і Стаўпецкай гміне ганяюць сялян вазіць пясок, каменьне і г. п., ды ўсё дарма! Чыстая паншчына!..

Раз за прывозку дроту да граніцы абяцалі заплаціць па 6 злотых, а далі па 37 грошай — і то пасьля скаргаў і доўгае цеганіны. Цяпер у гэты гарачы летні час усіх гоняць на натуральныя павінасьці, ды яшчэ з возам! Хоць жывы ў магілу лезь! І дзе выхад, дзе шукаць палепшаньня?

Мы цяпер пераканаліся, што ўся бяда ў нашай незарганізованасьці. Трэба арганізавацца ў сваю моцную Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду, то тады дамо адпор панам, буржуазіі і капіталу!..

**Лесавік.**

## Няма радачкі.

(Слонімшчына).

17-га чэрвеня ў вёску Шылавічы прыехаў гмінны пісар Сандуры ды паліцыянт № 2027. Людзі напужаліся, кожны ведаў, што дабра з гэтага ня будзе, бо ўлада да нас зьяўляецца толькі дзеля таго, каб арыштаваць каго-небудзь, па падаткі.

Гэты раз пісар пайшоў да сялянкі Людвісі Рамановіч, трэбуючы 46 зл. падатку. Ведала яна наперад, што гэныя „госьці“ прыйдуць, зьбірала, як магла і дзе магла грошы, але 20 зл. не хапала. Скажаце мо ня многа? Але-ж у нас людзі жывуць за 20 зл. два, або тры месяцы ды прытым заработкаў нідзе няма.

Сэкрэтар загадаў забраць апошнюю карову, кажучы, што Рамановіч „матка таго бандыта-камуніста, што за сэкрэтара ў Троцкага. „Хай ён прышлець грошы на падаткі“,—закончыў прадстаўнік улады.

У Людвіка Лукашэні хацелі забраць таксама кароўку—адзінае яго багацьце. Той пачаў прасіць, маліць, цалаваць рукі. Відаць, пісарчуку падабалася паніжэньне перад ім чалавека, бо каровы не забраў, а адправіў да старосты заяву, каб звольніць Лукашэню ад падатку.

Ад Паўла Байбака, які быў вінават 20 зл., забралі гадзіньнік, варты 50 зл., ды ў ягонага кватаранта Д. Сушко, быўшага ў той час на рабоце, боты вартыя 60 зл. Сэкрэтар заявіў, што боты будуць вернены, калі Байбак заплаціць падатак. Сушка працаваў якраз у солтыса, калі пад хату гэтага падвязьлі забраныя рэчы; пабачыўшы свае боты і ведаючы добра, што нічога не вінаваты гміне,—узяў іх з воза. Улада мамэнтальна яго арыштавала.

І да перавароту пухлі мы ад голаду. Цяпер-жа такое прыйшло, што хоць ты лезь жывы ў яму.

**Селянін.**

Адказны-Рэдактар: Т. Крачына. Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм П. Мятла.